# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (591) ГОД XII 25 ЧЭРВЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.




Прафсаюзныя дзеячы Гродзеншчыны і Беласточчыны на дзядзінцы Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.
Фота: Ян Мазурэк.

В. АВЕР

КІРАЎНІК АДДЗЕЛА ПРАПАГАНДЫ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП

## ПРЫГРАНІЧНЫ АБМЕН НА СЛУЖБЕ СЯБРОЎСТВА



Адным з элементаў развіваючыхся адносін паміж Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік а Польскай Народнай Рэспублікай з'яўляецца прыгранічны абмен· Развіваецца ён ужо амаль дзесяць год паміж мяжуючымі з сабою вобласцямі СССР і ваяводствамі ПНР· Наша ваяводства здзяйсняе абмен з Гродзенскай вобласцю БССР. Шматгадовае развіццё прыгранічнага абмену, які існуе да гэтага часу, поўнасцю падцвярджае слушнасць і мэтазгоднасць далейшага пашырэння такога роду адносін, якія склаліся паміж супрацуючымі з сабою ваяводствамі, арганізацыямі і ўстановамі. Прыгранічны абмен робіць магчымым лепш карыстацца з багатых вопытаў у будаўніцтве сацыялізма і камунізма·

У перыяд апошніх некалькіх гадоў у Гродзенскай вобласці БССР прабывала многа дэлегацый з нашага ваяводства. Прадстаўлялі яны розныя асяроддзі, а таксама розныя галіны гаспадарчага, грамадскага і культурнага жыцця· У мінулым годзе група нашых рацыяналізатараў і вынаходцаў пазнаёмілася з цікавымі метадамі, якія гродзенскія таварышы прымяняюць у прамысловасці. Дэлегацыя працаўнікоў сельскай гаспадаркі з нашых навукова-даследчых цэнтраў пазнаёмілася з даследчымі працамі, якія праводзіць Сельскагаспадарчы інстытут і Сельскагаспадарчае даследчае прадпрыемства ў Гродне· Асягнутыя доследы гродзенскія таварышы стараюцца як мага шырэй прапагаваць і прымяняць на практыцы· З гэтай мэтай праводзяць перыядычныя шкаленні старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў. Навуковыя працаўнікі знаходзяцца ў пастаянным кантакце з калгасамі і саўгасамі і пераказваюць ім навейшыя вынікі даследаў· Доследы і назіранні атрыманыя нашай дэлегацыяй дапамагаюць у працы нашым навукова-даследчым установам. Наша дэлегацыя маладзёжных дзеячоў пазнаёмілася з цікавымі формамі працы Камуністычнага саюза моладзі. У выхаваўчай працы нпр. камсамол звяртае асаблівую ўвагу на сацыялістычныя адносіны да працы, на фармаванне сацыялістычных адносін паміж людзьмі, асабліва сужыцця ў калектыве· Камсамольскія арганізацыі прымаюць таксама актыўны ўдзел у развязванні прадукцыйных праблем у прадпрыемствах і калгасах. Бяручь яны патранаты над цяжкімі адрэзкамі працы, займаюцца беспасрэдна наглядная прапагандай· Сур'ёзныя дасягненні маюць у арганізаванні свабоднага часу моладзі, назіраюць над парадкам і спакоем у вячэрні час на вуліцах, у парках і клубах. Дэлегацыі з Гродзеншчыны вывезлі ад нас таксама шмат добрых вопытаў· Падабаліся некаторыя нашыя вопыты ў галіне архітэктуры, горадабудаўніцтва, гаспадаркі камунальнай, меліярацыі і загаспадаравання лугоў, насеннай гаспадаркі, выхаваўчай працы ў нашых школах і т·п.

Я прывёў толькі некалькі прыкладаў узаемных карысцяў, якія дае прыгранічны абмен. Акрамя дэлегацый, якія маюць рабочы характар, прымяняем іншыя формы абмену. Некалькігадовы абмен спартыўных каманд пасадзейнічаў між іншым павышэнню шкаленёвых і спартыўных вынікаў нашых каманд. Пастаянна ўдасканальваем і пашыраем абмен матэрыялаў прэсы і радыё· У гэтых матэрыялах паказваем дасягненні Беласточчыны і Гродзеншчыны, якія змяшчаем на старонках нашых газет і перадаем па радыё.

Асабліва багатым з'яўляецца план прыгранічнага абмену ў гэтым годзе· Вынікае гэта з таго, што ў гэтым годзе абедзве нашыя партыі, Айчыны, народы, ваяводствы ўрачыста святкуюць 50-ую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У плане гэтага года прадбачваецца правядзенне шырокага абмену радыё і прэсавых матэрыялаў і фотавыставак, узаемны абмен лектарамі, мастацкімі і тэатральнымі калектывамі, маладзёжнымі групамі на летнія лагеры· Асаблівае месца ў нашых прыгранічных кантактах у гэтым годзе займаюць супольна арганізаваныя маніфестацыі ў сувязі з 50-тай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі паміж нашымі прадпрыемствамі, установамі, школамі, асяроддзямі, жыхарамі нашых ваяводстваў.

Хачу звярнуць увагу на яшчэ адну важную праблему, а менавіта, што ўсе нашыя групы і калектывы, якія пабывалі на гасціннай Гродзенскай Зямлі, сустрэліся з вельмі сардэчным і гарачым прыёмам·

(Працяг на стар. 3)

Дружба паміж Гродзеншчынай і Беласточчынай даўняя і ахоплівае многія галіны жыцця· Актыўны ўдзел у ёй прыймаюць і журналісты. Апошнім часам «Гродзенская праўда» і «Ніва» пастанавілі абменьвацца матэрыяламі· Сёння змяшчаем два з іх. У сярэдзіне нумара артыкул Я· Флякса «Дружба, замацаваная крывёю» і ўнізе верш паэта з Валкавыска Сяргея Бандарэнкі, напісаны ім на мітынг дружбы паміж насельніцтвам Гродзеншчыны і Беласточчыны·

СЯРГЕЙ БАНДАРЭНКА

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БРАТЫ І СЯБРЫ

Па-летняму сонца высока,
Ў чэрвеньскім шуме палі.
Дзень добры, зямля Беластока,
К табе мы з павагай глыбокай,
З вітаннем і дружбай прыйшлі·

Дзень добры вам, польскія вёскі,
Дзень добры, браты і сябры,
Пад шум гаманлівай бярозкі
Хай песень звіняць адгалоскі
З зары да вячэрняй зары.

Хай радасці будзе багата,
Мы сядзем за свежы абрус·
Сягоння ў нас светлае свята:
У госці, як к роднаму брату,
К паляку прыйшоў беларус.

Нас вабяць жытоў пералівы,
Нас кліча шырокі прасцяг·
Той самы на свеце шчаслівы,
Той самы ў палёце імклівы.
Хто дружбу ўздымае, як сцяг.

Прад дружбай знікаюць нягоды,
Прад ёю сціхае прыбой·
Мой друг, як у цяжкія годы,
Руку дай сваю назаўсёды
На вечную дружбу з табой·

Табе я не здраджу ніколі,
Імкненні ў нас сёння адны.
Я дружбе з уласнае волі
Вучыўся і ў полі, і ў лесе,
У дні ўсенароднай вайны.

Я бачыў руіны Варшавы
Ў час ліхалецця і зла·
Знішчаў яе вораг крывавы,
Ды мужнасці гордай і славы
Не знішчыў прышэлец датла.

Устала Варшава з магілы
Як помнік сяброўству жывы·
Бурляць яе творчыя сілы
І позірк, лагодны і мілы,
Скірован да братняй Масквы.

Дарог я ў жыцці не цураўся:
Я ведаю Кракаў і Лодзь.
Іх люд у баях гартаваўся,
Ён мужна за волю змагаўся,
Ён класа робочага — плоць.

Мне мрояцца ў марыве сінім
На рэйдах марскіх караблі,
Фартоў непахісных цвярдыні
І плёскат лябедак у Гдыні,
І бляск маякоў у далі·

Я сэрцам пяшчотна ўлюблёны
Ў слаўны здаўна Беласток·
Я чую, як шэпчуцца клёны,
Як гулка шумяць стадыёны
І клічуць, і клічуць здалёк.

Я быў там з сябрамі па працы,
Па вуліцах ціхіх блукаў,
Гасціў у рабочых палацах,
Вянкі на магілу на пляцы
Героям вайны ускладаў.

І там я не ў грохаце медзі,
Што маршам калыша эфір,
А ў мірнай сардэчнай бяседзе
Адчуў, як браты і суседзі
Лілеюць сяброўства і мір·

Няхай жа палаюць высока
Братэрства і дружбы сцягі!
Дзень добры, зямля Беластока,
Дзень добры, мой друг яснавокі
І польскі народ дарагі.

г· Валкавыск



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ БАРАЦЬБА

Блізкаўсходні канфлікт перайшоў зараз з поля бітвы за сталы дыпламатычных перагавораў. Сустрэчы і перагаворы на толькі вялікія і шырокія, што цяжка аб іх зараз пісаць тым больш, што ў панядзелак распачалася надзвычайная Сесія ААН, якую запрапанаваў Савецкі Саюз і на якую згадзілася больш 80 дзяржаў членаў ААН. Аб яе выніках у наступным нумары.

Ізраільскі міністр вайны Даян пацвердзіў, што Ізраіль абсалютна не мае ніякага намеру адступаць з занятай ім арабскай тэрыторыі. З усіх бакоў надыходзяць інфармацыі, што з занятых Ізраілем зямель высяляецца на сілу арабаў. 100 тысяч людзей мусіць вандраваць па пустыні пры 40 градусах гарачыні. Трэба дадаць, што ў асноўным гэта раненыя, старыкі і жанчыны з дзяцьмі. Ізраільскія салдафоны адбіраюць арабскім жанчынам ювелірныя вырабы і пашпарты на тое, каб потым нельга было даказаць, адкуль яны паходзяць. Гэткая нахабнасць і грубасць з боку ізраільскіх агрэсараў напэўна не прычыніцца да ўладжання суадносін, у будучыні, з арабскімі краінамі. Зрэшты, палітыка Ізраіля, якую ён зараз праводзіць, можа быць згубнай палітыкай.

### БЛІЗКАЎСХОДНЯЯ НАФТА

Сусветная энергетычная прадукцыя зараз у 50% залежыць ад нафты. Блізкаўсходняя нафта складае 75% нафты капіталістычнага лагера. Неабходна сказаць і аб тым, што ў арабскіх краінах знаходзіцца яна зараз пад паверхняю зямлі, і таму кошты яе эксплуатацыі найтаннейшыя: адна тона каштуе 11 долараў, з чаго ў руках арабаў астаецца толькі 74 цэнты, а апошняе — гэта чысты даход англа-амерыканскіх картэляў.

### ФГР — ІЗРАІЛЮ

Федэратыўная рэспубліка Германіі, перад ізраільска-арабскім канфліктам, даставіла Ізраілю: 50 самалётаў, 200 танкаў і 2 падводныя лодкі.

### АБ ЗАЯВЕ АЛІЛУЕВАЙ

«Ізвесція» перадрукавалі галасы грамадскай думкі многіх краін у справе заяў, якія склала дачка Сталіна Алілуева ў час сваёй пабыўкі ў ЗША. Вось выказванні французскай журналісткі:

«Святлана Сталін пакінула СССР не з палітычных поглядаў, але ў сувязі з настойлівасцю людзей з асяроддзя яе мужа індуса; да гэтага асяроддзя прабраліся два амерыканскія агенты. Сапраўдным імпрэсарыё ўсяе аперацыі з'яўляецца пісьменнік Шварц, лепш вядомы ў кругах спецыяльных органаў, чым у літаратурным свеце. Гэта Шварц паявіўся на прэс-канферэнцыі Алілуевай і забараніў ёй адказваць на пытанні, на якія не падрыхтаваў наперад адказаў на пісьме і некалькі разоў адказваў за яе».

### ЗАПАЛЬНЫЯ ПУНКТЫ

Куба — 5,8 мільёнаў жыхараў; 114 тысяч кв. км.; 65 жыхараў на адзін квадратны кіламетр. Безупынку ёй пагражаюць агрэсіяй ЗША. (АК)

## БССР

### ПЛЕНУМ

Адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Даклад меў сакратар ЦК, Д. Філімонаў. Загаловак даклада: **«Аб ходзе выканання пастановы II пленум ЦК КП Беларусі ад 25 чэрвеня 1966 года і мерах па ажыццяўленню планаў капітальнага будаўніцтва і вытворчасці будаўнічых матэрыялаў у рэспубліцы ў 1967 годзе».**

У дыскусіі выступіў, м. ін. **М. Малочка** — старшыня Выканаўчага камітэта Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных. З вялікай прамоваю на пленуме выступіў першы сакратар ЦК КП Беларусі, П. Машэраў.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

На 51 сесію Міжнароднай канферэнцыі працы ў Жэневе выехала дэлегацыя Беларускай ССР, у склад якой уваходзяць: А. Шэльдаў, В. Пяшкоў, А. Абуховіч, І. Сідаровіч, Э. Баршчэўскі, А. Войціхаў і Г. Калінін.

### ФАНТАНЫ

Дваццаты магутны фантан нафты забіў на Рэчыцкім месцанараджэнні — на беларускім Палессі.

Датэрмінова выканана план пяці месяцаў па здабычы «чорнага золата». Размеры дадатковай здабычы нафты перавышаюць 18 тысяч тон.

### 70 ТЫСЯЧ

У Гродне падпісаны акт аб здачы ў эксплуатацыю першай чаргі Гродзенскай баваўнапрадзільнай фабрыкі. У дзеянне ўведзены 70 тысяч верацён.

Тэкстыльны гігант на Нёмане — першае спецыялізаванае прадпрыемства ў Беларусі па вырабу грабеннай і корднай пражы. Усе цэхі яго размешчаны ў адным будынку, які займае 65 тысяч квадратных метраў.

### УЗНАГАРОДА

Першы сакратар Кобрынскага райкома партыі па даручэнню польскага ўрада ўручыў быламу савецкаму салдату Андрэю Брыштэну медалі: «Ганаровы знак Грунвальда», «Воля і Перамога», «За Варшаву», «За Одру, Нысу і Балтык».

Андрэй Брыштэн працуе ў калгасе «Праца» Кобрынскага раёна.

### УНІВЕРСІТЭТ

Пры Гомельскім абкоме партыі працуе ўніверсітэт міжнародных адносін. З яго аўдыторыі карыстае больш тысячы асоб.

Сёлета закончыла гэты ўніверсітэт 146 асоб.

### ІМЯ СКАРЫНЫ

У Полацку існуе Педагагічнае вучылішча імя Францішка Скарыны.

### САД

Батанічны сад Беларускай Акадэміі навук вядзе абмен насеннем з 43 краінамі свету.

### ЛЯМПАЧКІ

Дзесяткі тысяч электрычных лямпачак выпускае штодзень Брэсцкі электралямпавы завод. На гэтым заводзе вырабляюць электрычныя лямпачкі 4 тыпаў.

(СЯ)

## ПОЛЬШЧА

### ПЯЦІГОДКА

Сейм перадыскутаваў інфармацыю старшыні камісіі планавання пры Радзе Міністраў Стэфана Ендрыхоўскага аб рэалізаванні пяцігодкі 1966—1970 гг. З інфармацыі Ендрыхоўскага даведваемся між іншым наступнае:

Сярэдні гадавы ўзрост прамысловай прадукцыі згодна з пяцігадовым планам раўняцца меў 7,6 працэнтам. У першым годзе рэалізацыі плана быў ён крыху ніжэйшы (7,4 прац.). Затое значна вышэйшым ад планаванага быў у мінулым годзе ўзрост сельскагаспадарчай прадукцыі, які асягнуў 5,5 працэнта (планавалася сярэдні гадавы ўзрост 2,5 прац.). Усё паказвае, што плёны азімых культур будуць у гэтым годзе не меншымі ад мінулагодніх і што наступіць далейшы ўзрост сельскагаспадарчай прадукцыі. Вышэйшым ад планаванага быў таксама ўзрост нацыянальнага даходу (6,5 прац. у параўнанні з планаванымі 6 прац.), а таксама ўзрост намінальных заработкаў (узраслі яны на 8 прац. у параўнанні з планаваным узростам на 6,5 прац.). Калі ўлічыць адначасовы ўзрост розных цэн, акажацца, што рэальная зарплата ўзрасла ў першым годзе пяцігодкі на 3,2 працэнта, г.зн. таксама больш чым планавалася.

У наступнай частцы свайго выступлення Стэфан Ендрыхоўскі перааналізаваў асноўныя недахопы ў рэалізаванні пяцігодкі. Найцяжэйшай праблемай аказалася рэалізацыя плана ў галіне замежнага гандлю, дзе занатавалася значную перавагу колькасці тавараў, якія ўвозіліся ў краіну (імпарт) над колькасцю тых, якія вывозілася (экспарт). Наступным недахопам з'яўляецца недастатковы ўзрост прадукцыйнасці працы і празмерны ўзрост колькасці прынятых на работу. Недахопы выступілі таксама ў рэалізаванні інвестыцый: выкарыстанне планаваных на інвестыцыі сродкаў было перакрочана, а адначасна не выканалася плана інвестыцыйнага будаўніцтва.

### ПАРВАННЕ СУАДНОСІН

Урад Польскай Народнай Рэспублікі пастанавіў парваць дыпламатычныя суадносіны з Ізраілем. Прычынай гэтага рашэння з'яўляецца агрэсія Ізраіля на аравійскія краіны, а наступна захоп Ізраілем аравійскіх зямель. У апублікаванай з гэтай прычыны заяве сцвярджаецца, што Польшча ахвотна наважа дыпламатычныя суадносіны з Ізраілем у выпадку, калі Ізраіль адступіць з занятых тэрыторый і ўстрымае палітыку агрэсіі ў адносінах да аравійскіх дзяржаў.

### У ПОЗНАНІ

У днях ад 11.VI. да 25.VI. адбылася ў Познані традыцыйная міжнародная ярмарка. У гэтым годзе прыняло ў ёй удзел 46 краін. Нягледзячы на напружаную міжнародную абстаноўку ў Познань прыбыло замежных гасцей з гандлёвых акруг усяго свету на каля 500 асоб больш, чымсьці ў мінулым годзе.

Ярмарка ў гэтым годзе мела перад усім дзелавы, гандлёвы характар.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### 30-ГОДДЗЕ

У сувязі з 30-годдзем вялікай забастоўкі тэкстыльшчыкаў Беластока адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная гэтай выдатнай падзеі ў гісторыі класавай барацьбы беластоцкага пралетарыята.

З уступнай прамовай на гэтай сесіі выступіла мгр Марыя Семянюк.

У разгортванні барацьбы рабочых вялікую ролю адыгралі камуністы. Акруговы камітэт КПЗБ у Беластоку поўнасцю падтрымаў пастулаты рабочых. Асабліва працяглая забастоўка мела месца ў фабрыцы «Бэкера», рабочыя на працягу шасці месяцаў акупавалі фабрыку. — Была гэта найбольш працяглая акупацыйная забастоўка ў Беластоцкай акрузе ў міжваеннай Польшчы — сцвердзіла мгр М. Семянюк.

### З КОЎНА

Беласток наведала дэлегацыя літоўскага горада Коўна. Дэлегацыю ўзначаліў кіраўнік Аддзела асветы Гарадскога камітэта партыі ў Коўне — Антанас Гуіга.

Адначасова выехала ў Коўна дэлегацыя Беластока.

### НА VI-Ы

На VI-ты Кангрэс прафсаюзаў Польшчы выехала дэлегацыя Беласточчыны ў складзе 24 дэлегатаў з рашаючым голасам, 5 дэлегатаў з дарадчым голасам і 7 дзеячаў Беластоцкай прафсаюзнай арганізацыі, якая налічвае разам 178 тысяч членаў.

Беластоцкую дэлегацыю ўзначаліў Дзімітры Карповіч.

### XXII-АЯ

Урачыста святкавалася XXII-ая гадавіна ўтварэння пагранічных войск ПНР. У Беластоцкім атрадзе пагранічных войск — ВОП — адбылася ўрачыстая акадэмія з удзелам прадстаўнікоў улад Беласточчыны.

З дакладам выступіў камандзір Беластоцкага атрада ВОП — палкоўнік Балеслаў Лукомскі.

### САВІЦКІ

Нядаўна адбылася экскурсія ў СССР былых вязняў Картуз-Бярозы. З Беластока ў гэтай экскурсіі ўдзельнічаў Хведар Савіцкі, былы вязень Картузы № 246.

Даўні канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозе заменены цяпер на музей.

### КРАСАМОЎЧЫ

У Беластоку адбыўся красамоўчы конкурс маладых адвакатаў. Першае месца здабыў Эдвард Кірэйчык.

### ТАЛЕНТ

Вучань Ляснога тэхнікума ў Белавежы, Рышард Пуцілоўскі, аказаўся найбольш здольным у Польшчы матэматыкам спасярод сёлеташніх выпускнікоў сярэдніх школ. Будзе ён прадстаўніком Польшчы на міжнароднай сустрэчы маладых матэматыкаў у Югаславіі.

### БАЛТЫЙСКАЯ

Трэцюю Балтыйскую велагонку дружбы, траса якой, між іншым, праходзіла праз Беласточчыну, выйграў К. Ясінскі і каманда Польскага саюза велагоншчыкаў. Беластоцкая каманда заняла апошняе 15 месца. (ся)




**Niedziela 25.VI.**

10.35 „Witajcie, wstęp wzbroniony" — film fab. 11.30 PKF. 11.40 Dziennik. 11.50 „Śpiewamy, tańczymy" — program muzyczny. 12.30 „Przemiany". 13.00 „Jak się bawić, to się bawić" („W starym kinie"). 14.00 Teatr Młodego Widza: K. Siesicka „Zapałka na zakręcie". 15.10 „Dom Faraonów" — film („Egipcjanie"). 16.05 „Narybek" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"). 16.20 Studio 63: „Erotyki Polskie". 17.10 Słownik wyrazów obcych. 17.30 Sprawozdanie sportowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.50 „NASZ ŚWIAT" — program międzynarodowy. 22.00 Dziennik. 22.15 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 26.VI.**

16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Przygody Gapiszona" — film. 17.10 „Tchórz" — film pol. 17.30 „Bryza". 17.55 Magazyn Postępu Technicznego. 18.25 Kino Krótkich Filmów. 18.55 „Aluminium po polsku". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Cyganie" — rep. film. 20.25 Teatr TV: L. Pirandello „Tak jest — jak się Państwu zdaje". 21.50 „Na półkach księgarskich". 22.00 Dziennik.

**Wtorek 27.VI.**

10.00 „Dwanaście milionów Holendrów" — film dokument. holend. 16.45 „Wtorki, czwartki i soboty" — film pol. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Powrót Robin Hooda" — film („Robin Hood"). 17.25 „Piosenki i tańce Kantonu Valais" — film tv szwajc. 17.40 Kabaret Reklamowy. 17.50 „Asocjacje" — teleturniej. 18.20 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.50 „M XIV odpowiada" — film („Podziemny front"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 TV Kurier Warszawski. 20.20 „Dwanaście milionów Holendrów" — film dokument. holend. 21.40 „Na wielkim ekranie". 22.20 Dziennik.

**Środa 28.VI.**

10.00 „Utracony raj" — film fab. węg. 16.25 „Przygotowanie maszyn do małych żniw". 16.35 PKF. 16.45 „Kandydatki" — film pol. 16.55 Dziennik. 17.00 „Nie tylko dla pań". 17.30 „Polska Muzyka Ludowa". 18.00 „10.000 wioseł" („W pracowniach polskich uczonych"). 18.30 „Dobry wieczór, jak minął dzień". 18.55 „Dzień jak codzień" — film tv radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Śpiewa Cecile Deville". 20.30 „Światowid". 21.00 „Człowiek z blizną" — film tv USA — cz. I. 21.55 Dziennik.

**Czwartek 29.VI.**

16.55 Dziennik. 17.00 „Mój dom nad morzem" — film tv radz. 17.20 „Tramp". 17.40 Kino Filmów Amatorskich. 18.10 „Deszczowy koncert" — gra orkiestra Telewizji Katowice z udziałem solistów, instrumentalistów i wokalistów. 18.45 Program Redakcji Wiejskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Rep. filmowy. 20.20 „Śmierć przychodzi w deszcz" — film fab. CSRS. 21.50 „Preparowanie faktów". 22.20 Dziennik.

**Piątek 30.VI.**

10.00 „O moim przyjacielu" — film fab. radz. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: 1. „Liga Entuzjastów Wakacji", 2. „Robin Hood" — film. 18.00 Wszechnica TV: „Za kierownicą". 18.30 „Śpiewa Teresa Kosevija". 18.50 Program Wiejski „Jadłospis ludzi spieszących się". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 TV Kurier Mazowiecki. 20.20 Teatr TV: „Dramat na polowaniu" — widowisko tv wg powieści A. Czechowa. 21.30 „10 minut recenzji". 21.40 „Laureat Archimedesa". 23.30 Dziennik.

**Sobota 1.VII.**

10.00 „Ostrożnie profesorze" — film fab. USA. 14.50 „Rewolucyjny wymarsz nauki" (Moskwa). 16.50 Program tygodnia. 17.10 Dziennik. 17.15 „Spotkanie z przyrodą". 17.40 „7 milionów młodych" „Jak pomóc młodym". 18.00 Sprawozdanie sportowe. 20.00 Dobranoc. 20.10 Monitor. 20.45 „Pegaz". 21.30 „Rewia zespołów" — program rozrywkowy. 22.30 Dziennik. 22.45 Wiadomości sportowe. 22.55 „Ostrożnie profesorze" — film fab. USA.




**23 czerwca**

14.05 Program. 14.10 Dla dzieci. 14.50 Dla uczniów. 15.20 Tydzień Azerbejdżańskiej SRR w Moskwie. 16.00 Dziennik. 16.20 Tydzień Azerbejdżańskiej SRR. 17.40 Białoruski przemysł budowlany. 18.00 Sztafeta nowin. 19.00 Kompozytor A. Pietrow. 19.50 „Kanada i Kanadyjczycy". 20.10 „Przyjaciele i lata". Film.

**24 czerwca**

12.45 Program. 12.50 Dla uczniów. 13.20 Tydzień Azerbejdżańskiej SRR w Moskwie. 14.00 Muzeum „O władzę Rad". 14.35 Dziennik. 15.00 Klub filmowy. 15.50 Program satyryczny. 16.05 „Ciche kroki". Spektakl TV. 17.00 Koncert zespołów amatorskich obwodu mińskiego. 20.25 „Na deskach sceny". Film.

**25 czerwca**

7.55 Program. 8.00 Gimnastyka. 8.30 Program poświęcony Dniu młodzieży radzieckiej. 9.10 Szkatułka muzyczna. 9.20 Dla uczniów. 10.00 „Nowe spotkania" (teatr komedii muzycznej z Odessy). 12.00 Tydzień Azerbejdżańskiej SRR w Moskwie. 13.00 Dla żołnierzy. 13.40 Kiosk muzyczny. 14.10 Dziennik. 14.20 „Blaski i cienie". 14.50 TV teatr miniatur. 16.00 „W krainie Inków". Film dokumentalny. 17.00 Koncert zespołów amatorskich obwodu brzeskiego. 20.00 Program międzynarodowy.

 

# КОНКУРС на ПАЎМЭЦЕ

Вялікі чытальніцкі конкурс пад лозунгам «Беларуская кніжка ў руках масавага чытача», які «Ніва» разам з Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Ваяводскай бібліятэкай аб'явіла на пачатку года, дайшоў да паўмэты. Заканчэнне, як мы пісалі раней, адбудзецца ў 50-тую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беластоку.

Як жыве конкурс? Як прадстаўляецца яго сітуацыя? Да конкурсу прыступілі: Аддзел культуры Прэз· Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку (прыслаў паведамленне аб 3 тысячах зл. на ўзнагароды), Ваяводскае праўленне ТППР у Беластоку (500 злотых), Ваяводскае праўленне ЗМС у Беластоку (500 зл.), Дзяржаўнае прадпрыемства «Дом кніжкі» ў Беластоку (2000 зл.)· Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства прызнала 2.500 зл· Яшчэ не маем сум ад Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку і аддзела культуры Прэз. Гарадской рады нарадовай у Беластоку· Гэта адзін бок справы. Другі — гэта як конкурс успрымаецца ў тэрэне сярод чытачоў·

З Ваяводскай бібліятэкі, якая моцна заслужылася ў самой арганізацыі конкурсу і асабліва яе дырэктар **Уладзіслаў Малеўскі,** пайшоў конкурс следам бібліятэк павятовых і грамадскіх· І ўжо гэты факт вельмі важны, бо роля бібліятэк у развіванні чытальніцтва не падлягае сумненню. Яны — бібліятэкі найбольш могуць зрабіць· Яны найбольш і робяць у развіванні чытальніцтва, у тым і беларускага. Асабліва бібліятэкі Бельскага павета на чале з павятовай і Гайнаўскага таксама на чале з павятовай·

З дзвюх гэтых бібліятэк прыйшло ўжо звыш 500 купонаў: 355 з Бельска і 174 з Гайнаўкі.

30 купонаў дагэтуль прыслалі чытачы «Нівы» індывідуальна, не праз бібліятэку.

Многа гэта ці мала? Замнога ў даным выпадку не будзе ніколі· Адно толькі сказаць варта, што на паўмэце гэты наш конкурс перагнаў далёка ўжо розныя іншыя конкурсы, арганізаваныя з беларускай кніжкай.

Радасць з гэтага такая, што ўсё ж беларуская кніжка чытаецца людзьмі, і бібліятэкары кніжку гэтую прапагуюць· Выказванні чытачоў кніжак на купонах дапамогуць нам сарыентавацца, на колькі беларускі кнігазбор бібліятэк добры, адпаведны, папулярны? Якога роду літаратура чытаецца і што чытаецца найахватней? Чаго мала, чаго замнога? Да жаданняў чытачоў будзе дастасавана палітыка закупаў Ваяводскай бібліятэкай беларускіх кніжак за граніцай·

Цікавейшыя выказванні з купонаў будуць узнагароджаны· Але пачынаючы ад паўмэты, рэдакцыя будзе ў «Ніве» друкаваць лепшыя выказванні.

Прыпамінаем, што каб лягчэй было шукаць беларускую кніжку, мы змяшчаем аўтараў і загалоўкі твораў беларускай літаратуры, а таксама на бягуча падаем, што дзеецца новага ў конкурсе.

Прыпамінаем таксама ўзнагароды ў конкурсе:

**Радыё на транзістарах**
**адаптар**
**ручныя гадзіннікі**
**камплекты грампласцінак**
**аўтаручкі і даўгапісы**
**прадметы штодзённага ўжывання**
**камплекты кніжак, альбомы·**

А цяпер жвава з паўмэты наперад! Складаючы сардэчную падзяку бібліятэкарам нашым, просім іх у другой палове да мэты не звальняць бегу. Цэнім высока голас нашых спецыялістаў-бібліятэкараў і голасу гэтага захочам выслухаць з усіх канцоў ваяводства на ўрачыстым падсумаванні конкурсу·

У заканчэнні паведамляем усіх зацікаўленых, што па прыкладу беларусаў пайшлі літоўцы ў Беластоцкім ваяводстве і таксама арганізавалі чытальніцкі конкурс· Праўда, меншы размерамі, але таму, што літоўцаў менш.

Спецыяльныя пісьмы аб нашым конкурсе Ваяводская бібліятэка ў Беластоку выслала яшчэ раней да братніх нацыянальных таварыстваў у Польшчы з заклікам пайсці следам беларусаў·

(вл)

# Пласцінка беларускіх рамансаў у Празе

Як мы нядаўна даведаліся, слаўны беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, які жыве ў Празе, рыхтуе новую доўгаграючую пласцінку. Гэтым разам Міхась Забэйда хоча наспяваць беларускія песні-рамансы на словы беларускіх паэтаў. На пласцінцы гэтай маюць быць песні Чуркіна, Туранкова, Галкоўскага, Багатырова, Аладава, Пукста, Алоўнікава і інш. на словы Купалы, Багдановіча, Бядулі, Гурло, Машары, Танка, Русака і інш. Як вядома, такой пласцінкі яшчэ не было і патрэба ў ёй вялікая. Сардэчна вітаем каштоўную ініцыятыву і чакаем на пласцінку.

(рл)

# ЭКСПАНАТЫ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ

Беларускаму этнаграфічнаму музею ў Белавежы патрэбны:

СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ПРЫЛАДЫ

(Пачатак у папярэднім нумары)

6. Цапы, прылады да ачысткі збожжа рознымі спосабамі;
7· Прылады да апрацоўкі ільну (асабліва дробныя, як шчоткі, трапачкі і г.д.);
8· Розныя тыпы прасніц і верацён;
9. Прылады да насыпання бульбы, шуфлі;
10· Кошыкі;
11· Прылады да кляпання кос: бабкі, малаткі;
12. Прылады да вастрэння кос;
13· Кручкі да выцягвання сена;
14. Самаробныя прылады да рэзання сечкі;
15· Рэзгі (разгіні).

Прадметы да музея знойдзеныя ў сваіх вёсках і ваколіцы просім перадаваць у школы. Настаўнікаў просім паведамляць аб знаходках па адрасу: ZG BTS-K Białystok, ul. Warszawska 11.

(Працяг са стар. 1)

# Прыгранічны абмен на службе сяброўства

Савецкія людзі шчыра нас інфармавалі і паказвалі нам тое, што мы хацелі, не скрывалі крыніц поспехаў і недахопаў, дзяліліся з сапраўднымі сябрамі і братамі·

Гэтыя сардэчныя адносіны і добразычлівасць, якімі мы адплачваліся савецкім таварышам, прычыніліся, што пабыўка паасобных груп і калектываў пераўтварылася ў маніфестацыю польска-савецкай дружбы. Гэтай дружбы, якой пастаяннаму ўмацаванню служыць таксама прыгранічны абмен.

**В· АВЕР**

**Кіраўнік Аддзела прапаганды Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку.**

ПШАНІЦА                Фота Ул. Паўлючук



## ЛЮДЗІ і ЧАС

# НАД ДОНАМ І Ў АХРЫМАХ

Уласціва пачаць трэба аднак ад Ахрымаў. Бо ў Ахрымах нарадзіўся Дзімітры Несцярук у 1907 годзе· А над Дон закінула, як вядома, нашых сялян I сусветная вайна· Дзімітры Несцярук быў тады яшчэ малым дзіцём і дзяліў лёс дзяцей кінутых у страшэнную завіруху вайны. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бацька Дзімітра быў пры штабе Будзённага т·зв. «веставым» — развозіў распараджэнні камандзіра. Захварэў на тыф ды памёр· Малады Дзімітры, нягледзячы на дзіцячыя гады, заняў месца бацькі.

Такім чынам 13-гадовы хлапчук з Ахрымаў пад Нараўкаю стаўся будзёнаўскім салдатам· Штодзень бачыў легендарнага камандзіра, прымаў ад яго загады і распараджэнні. Здаралася, што хлапчук з-пад Нараўкі заслужваў на пахвалу ад вялікага палкаводца, на прыязны поціск за плячо, на пахвальнае слова·

Аднойчы Дзімітры заўважыў, як уцякло са зняволення трох контррэвалюцыянераў. Удалося ім падкупіць страж на рацэ і ўцячы ў стэп. Малады Дзімітры дагнаў іх на кані ў стэпе і прывёў назад· Будзённы даў загад павысіць маладому «веставому» зарплату ў тры разы.

Вайна, аднак, не гульня, і маладому Дзімітру прыйшлося пацярпець· Быў ён цяжка ранены пры выконванні сваіх абавязкаў. Казак, якому Дзімітры прынёс загад рыхтаваць падводу, у злосці стрэліў хлапчуку проста ў галаву· Дзімітру куля акалечыла нос і вырвала вока. Адляжаўшы сваё ў бальніцы, атрымаў ён дакументы і паехаў на радзіму — у Польшчу·

Міжваенныя гады Дзімітра Несцерука былі тыповымі для тых, хто, вярнуўшыся з краіны ахінутай пажарам рэвалюцыі, не мог згадзіцца з панскім ладам· Несцярук уступае ў Грамаду, а пасля яе разгрому дзейнічае ў павязаных з кампартыяй прафсаюзах. Сапраўдныя аднак магчымасці неабмежаванай грамадскай дзейнасці адкрыліся толькі пры савецкай уладзе. Але не надоўга· Надышлі часы нямецкай акупацыі, і Дзімітры Несцярук баючыся за сваё жыццё вымушаны быў уцякаць у лес. Стаўся партызанам· Камандзірам атрада быў «Косця» — добры салдат і сябра. Атрад дзейнічаў у аколіцах Ахрымаў· Дзімітры часта заглядаў дахаты. Быў у пастаянным кантакце з ахрымаўскім солтысам Косцем Паўлоўскім, які многа дапамагаў партызанам· Аднойчы немцы сабралі солтысаў з усяе аколіцы ў Нараўцы і загадалі ім зрабіць спісак усіх камуністаў у іх вёсках· Паўлоўскі доўга пераконваў немцаў, што ў Ахрымах усе камуністы або загінулі ў час вайны, або выехалі ў Савецкі Саюз. Удалося пераканаць, і неўзабаве солтыс паведаміў Несцерука, што калі хоча, можа вяртацца дахаты. Ваяваць з адным вокам сапраўды даволі цяжка і дзядзька Дзімітры папрасіў камандзіра адпусціць яго· «Косця» згадзіўся, засцерагаючы, што ў хаце будзе ён мець шмат работы для партызан· І сапраўды, пакуль знаходзіўся ў Ахрымах, Дзімітры Несцярук быў у пастаянным кантакце з партызанскім атрадам.

Калі, аднак, немцы знялі Паўлоўскага з солтыса, Несцярук знайшоўся мабыць на нейкім чорным спіску. Узялі яго на прымусовыя работы ў Беласток· Шчасце, што дырэктарам прадпрыемства быў прагрэсіўны, незадаволены з гітлераўскай ідэалогіі немец. Дазволіла гэта перагрымаць акупацыю і вярнуцца цэлым дахаты·

Дзімітры Несцярук быў адным з тых, якія першымі пачалі арганізаваць ППР на сённяшняй Гайнаўшчыне· Стаўся ён першым сакратаром сарганізаванай у Ахрымах партарганізацыі. У лясах поўна было бандаў рэакцыйнага падполля, якое разбівала партыйныя арганізацыі, расстрэльвала камуністаў· Трэба было думаць аб тым, як бараніцца· Несцярук арганізуе ў аколіцы ОРМО. З таго часу банды баяліся паяўляцца ў Ахрымах і суседніх вёсках.

Зараз у Ахрымах жывецца ціха і спакойна· Лядская пушча, якая пачынаецца зараз за вёскаю, шуміць мірна і сімпатычна. Спакойна жыве і дзядзька Дзімітры· Ён ужо пенсіянер· Ахвотна, аднак, уключаецца ў грамадскае жыццё, дапамагае маладым развязваць праблемы сучаснага нашага жыцця.

**Ул. Паўлючук**





 

 

**Вайна, год 1941** **(2)**




У вёсцы Каралеўская Машчона сустрэў я старэйшага селяніна Антона Капельку.

— Дзе тут праходзіла граніца ў 1941 годзе? — пытаю.

— А вось там, за поплавам па рэчцы, нейкія паўтары вярсты за вёскай. Калі немцы рыхтаваліся на Саветаў, то там за Бугам штосьці безупынна гуло і грукатала· Хіба танкі падцягвалі· А ў нашым лесе стаялі рускія· Яны тут будавалі бетонныя бункры· Аднак не паспелі· У палатках тады расклаліся. Нас у лес не дапускалі, то не ведаю. колькі іх там было. Можа Лявон Парфенюк ведае. Яго брат тады быў сакратаром сельсавета.

— Так, сапраўды быў за нашай вёскай у лесе ваенны гарадок, — гаворыць Лявон Парфенюк. — Але вялікай сілы там не было· Салдаты чакалі на заканчэнне пабудовы дзотаў· Іх сем знаходзіцца на нашых палях· Тры ўжо былі гатовыя і яны бараніліся· Заўзята адбівалі нямецкія атакі· Асабліва адзін, вунь там, — гаспадар паказвае на ўзгорак пад лесам, дзе з зямлі вырастае шэры купал бетоннай пабудовы. — Да чацвярга бараніліся, не пускалі немцаў у нашу вёску. Немцы падышлі іх ззаду — ад усходу, адкуль яны не маглі адстрэльвацца. Падцягнулі бочку з газам і пачалі пускаць дым у бункер. Аднак ніхто не прасіў памілавання. Нашыя людзі іх пахавалі ля палявой дарогі· 17 афіцэраў там было: адзін капітан і 16 лейтэнантаў. Толькі адзін астаўся ў жывых· Ён схаваўся ў бункерным калодзежы і адтуль немцы непрытомнага ўзялі яго ў палон· Геройскія хлопцы· А на ўзгорку, за маёй клуняй, быў акопаны танк. Яго абслугоўвалі двух байцоў: лейтэнант і сержант. Таксама бараніліся яны як ільвы. Я іх ведаў яшчэ раней. Памятаю, што на другі дзень вайны, у панядзелак, — прыбег да мяне гэты сержант, высокі, чарнявы, яшчэ малады хлапец, просіць вады· Лейтэнанта, кажа, параніла, вочы выбіла, ратаваць трэба· А кругом страляніна, грукатня, аж зямля трасецца. Даў я яму чайнік вады, але сержант зараз назад вярнуўся· Разбілі, кажа, наш танк і лейтэнанта ўжо няма, разарвала яго· Адступаць трэба· Але яшчэ я гэтым белабрысым гадам пакажу! I загнуў «па матушке, па Волге». Бачыце, савецкія салдаты чакалі тут на дапамогу, на тылавыя часці. Яны спадзяваліся, што за дватры дні прыдзе падмацаванне. Не, гэта няпраўда, што без выстралу ўцякалі.

Падобную гісторыю расказаў мне солтыс вёскі Анусін, Казімір Мормаль·

— Якраз вяртаўся я з працы, з тартака, які быў на станцыі Сямяцічы· Раптам праляцелі самалёты, а за Бугам узняліся чырвоныя ракеты. На вайсковых справах я крыху знаюся· Значыць, падумаў, вайна· I сапраўды зараз пачаўся артылерыйскі абстрэл. Я хутчэй дапаў дахаты, памыўся, надзеў чыстую кашулю, жонка пабудзіла дзяцей. А снарады свішчуць. Ужо гарацъ Сямяцічы, і наша вёска таксама загарэлася.

Саветы мелі тут свае бункры· **Адзін з іх два дні і дзве ночы не дапускаў да вёскі немцаў· А пасля яшчэ 5 дзён не маглі яго ўзяць. З гэтага бункра разбілі адзін нямецкі танк і тры самаходы·** Стралялі з гармат і кулямётаў· Пасля немцы зайшлі іх ззаду. I гранатамі паатручвалі. 27 чалавек там было. Ніводзін не здаўся.

Гэтыя подзвігі сталіся ўжо бессмяротныя· Мясцовыя людзі, пераказваючы адзін другому падзеі чэрвеньскіх дзён 1941 года, шмат чаго дадаюць ад сябе і ўпрыгожваюць, нарадзіліся цэлыя легенды· Гавораць, што ў час акупацыі ў вёсцы Слохі Анапольскія людзі спявалі песню пра савецкага афіцэра, які загінуў у іх вёсцы, але перад смерцю забіў нямецкага палкоўніка.

I вось гэтага, стойкасці савецкіх салдат, Гітлер не ўзяў пад увагу· Яго летапісец **Гэльмут Грайнер,** які вёў **«Урадавы дзённік ваенных дзеянняў,** вымушаны быў запісаць:

«Усходняя кампанія, з вялікай надзеяй распачатая 22 чэрвеня 1941 года, не гледзячы на ўсе перамогі, не прынесла жаданай хуткай развязкі· Праўда, што Чырвоная Армія летам і восенню ў акружаючых баях пацярпела вялікія затраты, але не была аднак знішчана, а ў яе ў распараджэнні аставаліся яшчэ багатыя запасы; затое нямецкія афензіўныя аперацыі пад канец лістапада 1941 года астаткова спыніліся ў Данецкім Басейне, ля варот Масквы і Ленінграда. Зачэпная сіла арміі «Усход» была ўжо поўнасцю выкарыстана, яе затраты да 1 снежня (1941 г.) склалі: 162314 забітых, 33.334 прапаўшых і 571 167 параненых, — гэта значыць 24% яе пачатковага стану· Гэтыя затраты, а таксама вельмі сур'ёзныя матэрыяльныя затраты папоўніць можна было толькі часткова»·

Так пісаў нямецкі гісторык летам 1942 года, калі яшчэ не было **сталінградскага бою.** I тут прыпомніліся мне словы аднаго жыхара з Мельніка **Ярaслава Іваноўскага:**

— Праз нашу вёску (жылі мы ў Саколы) без канца ішла ваенная тэхніка: танкі, гарматы і ўсё другое· Сёй-той гаварыў: «Што ж будзе, хлопцы? Гітлер хіба паб'е Маскву?» А мой бацька, пакойны Ілья, кажа: **«І гэтай каляснiцы выляцяць у Расіі шпіцы»·**

**Віктар Рудчык**

# НА СУСТРЭЧУ З ГІСТОРЫЯЙ

Кузніца і ўся Беласточчына праважала Іх сонцам і цеплынёй. Іх, гэта абазначае 250-асабовую групу польскіх удзельнікаў Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія спецыяльным поездам, праз Кузніцу, адправіліся ў Савецкі Саюз. У склад кіраўніцтва групы ўваходзіў таксама член ЦК, I сакратар ВК ПАРП **Аркадзь Лашэвіч.**

Краіна Саветаў вельмі цёпла сустрэла сваіх братоў, тых, якія 50 год таму змагаліся за ўладу саветаў, арганізавалі Чырвоную Армію, грамілі белых і іншых ворагаў маладой сацыялістычнай краіны. Польскія госці наведалі горад рэвалюцыі Ленінград, Маскву, сустракаліся з савецкімі ветэранамі рэвалюцыі і працоўнымі прадпрыемстваў·

Адзінаццаціасабовую групу ўдзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі дэлегавала Беласточчына· Яшчэ раз мог прыпомніць гук выстралаў «Аўроры» і гэтыя дні, якія страсянулі светам, **Аляксандр Жданюк** з Вострава (павет Дуброва Беластоцкая). Прымаў ён непасрэдны ўдзел у штурме на Зімні Палац· Супольна з савецкімі ветэранамі змог таксама пагаварыць і аб арганізаванні савецкай улады (арганізаваў у Казані)· Не выйшла з галавы і тое, калі папаўся белагвардзейцам у плен і быў прыгавораны да смяротнай казні, і толькі дзякуючы хуткай контратацы Чырвонай Арміі прыгавору белыя выканаць не паспелі. **Паўлу Храноўскаму** з вёскі Азяблы, Беластоцкага павета, запомніліся гарачыя, вельмі гарачыя дні ў Туле. Іменна тут служыў ён у Чырвонай Гвардыі, затым у міліцыі і ўрэшце ў ВЧК. **Нікіфар Федарук** з Плюціч, Бельскага павета, шукаў тых, якія ў часы рэвалюцыі знаходзіліся ў Сімбірску. Іменна тут яму прыйшлося прыймаць удзел у пакліканні савецкай улады· Дасканала памятае партыйную працу былы член РКП(б) **Сяргей Дзедух-Дружба родам з Крывяціч**. У 1918 годзе добраахвотна ўступіў ён у рады Чырвонай Арміі і быў тут партыйным арганізатарам. Трэба напомніць, што ў гэты час гэткая функцыя была адказной і наогул патрабавала мужнасці і здольнасці· Цікава было паўспамінаць у кругу савецкіх ветэранаў **Аляксандру Грэсю,** быламу члену РКП(б) і камандзіру спецаддзела ВЧК, **Канстанціну Зубрыцкаму,** які служыў у Чырвонай Гвардыі ў Екацярынаслаўлю, **Аляксею Рашчэнка** з Дашоў, які прымаў непасрэдны ўдзел у грамадзянскай вайне· Не меншую прыемнасць адчулі былыя рэвалюцыянеры **Лёнгін Зелянкоўскі,** які зараз жыве ў Беластоку, **Антон Тапалевіч** з Беластока, **Апалінары Чаплінскі** з Алецка і **Станіслаў Лапінскі** з Лап.

Неабходна дадаць, што многія з вышэй успомненых рэвалюцыйнага духу вучыліся ўпершыню іменна ў часы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Калі савецкая ўлада перамагла ўнутраных і вонкавых ворагаў, вышэй успомненыя вярнуліся на бацькаўшчыну. Амаль усе прыймалі актыўны ўдзел у арганізацыі працы КПЗБ, а потым заангажаваліся ў барацьбу з фашысцкім захопнікам, былі суарганізатарамі, актыўнымі членамі ППР.

Беласточчына ганарыцца, што з яе зямлі вырасла толькі актыўных барацьбітоў, якія ў найцяжэйшыя хвіліны палітычных хістанняў у краіне заўсёды ставалі ў абароне здабыткаў сацыялізма. Трэба дадаць, што на экскурсію выехала толькі дэлегацыя ўдзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а што на Беласточчыне іх многа больш. Да некаторых з іх будзем індывідуальна вяртацца ў наступных нумарах «Нівы»·

А. К·

# ЭТНАГРАФІЯ



**Вугал хаты Мікіты Юрчука з Нурца, Бельскага павета.**

**Фота: Уладзімір Юзвюк**

**МАТЭРЫЯЛ АРГАНІЗАВАНЫ ДЛЯ НАС «ГРОДЗЕНСКАЙ ПРАЎДАЙ»**




Я гутарыў з Фёдарам Сямёнавічам Рыло ў невялікім доме ў вёсцы Партызанаўка. Мой субяседнік ужо немалады мужчына з сівізною, з пабітым воспай, абветраным тварам·

Ён толькі што прыйшоў з працы і прынёс з сабою ў хату вясеннюю свежасць поля, водар палявых кветак·

Фёдар Сямёнавіч працуе звеннявым па вырошчванню цукровых буракоў і ільну. Пяты год займаецца гэтай справай і дабіўся выдатных вынікаў. Яго звяно перадавое ў калгасе·

— Вы прыехалі да нас Касаўскім трактам? — пытаецца Рыло.

— Так, — адказваю не зразумеўшы сэнсу пытання·

Фёдар Сямёнавіч аб чымсьці задумаўся і потым, цяжка ўздыхнуўшы, пачаў:

— З гэтым Косаўскім трактам звязана адна важная падзея ў маім жыцці. Было гэта ў 1934 годзе. Я тады ўступіў у камсамол· Сакратаром ячэйкі быў у нас Павел Серый· Вырашыў я разам з Мікалаем Бутца, аднавяскоўцам, адзначыць сваё ўступленне ў камсамол: на ажыўленым месцы Косаўскага тракта мы павесілі рэвалюцыйны плакат. Гэта было маё першае выступленне супраць старога буржуазнага ладу.

— А як далей склалася ваша жыццё? — пытаюся·

— З гэтага памятнага дня ўключаюся ў падпольную работу. Вядзем агітацыю сярод сялян, распаўсюджваем лістоўкі, палітычную літаратуру· У 1935 годзе мяне выбралі сакратаром ячэйкі КПЗБ· Наша арганізацыя была добра законспіравана. Шпікам не было да чаго прычапіцца. I ўсё ж 12 мая 1936 года я аказаўся за калючым дротам канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе· Разам са мною прывялі ў лагер яшчэ чатырох: Фёдара Несцера з вёскі Акунінава, Фёдара Якубчыка з вёскі Серкі, Рыгора Якубчыка з вёскі Урач і Лейбу Бляхера са Слоніма·

Нас пяцёх, закаваных у кайданы, за брамаю лагера чакала каля 50 паліцэйскіх, якія адразу накінуліся на нас і пачалі біць. Так пачалося маё жыццё ў няволі.

Турэмшчыкі бязлітасна здзекваліся над намі· Чаго толькі не выдумвалі палачы. Яны запрагалі нас у вазы для перавозкі пяску і гравію, запрагалі ў павозку з бочкаю для падвозкі вады, у каток для ўкачвання маставой··. Білі бязлітасна, доўга. Білі штодзённа, днём і ноччу· Мучыцелі імкнуліся зламаць нашу волю, падарваць веру ў справу нашу справядлівую·

Памятаю, вельмі цяжка мне было ў гэты вечар. Здавалася, усе сілы пакінулі мяне. Чатырнаццаць сутак прасядзеў у карцэры. Холад, галодны карцэрны рэжым, палачныя ўдары зрабілі сваю справу: захварэў на курыную слепату і знясілены паўзком дабраўся да сваёй камеры.

Раптам нехта дакрануўся да мяне.

— На, таварыш, падмацуйся, — пачуў я побач, і нехта ўсунуў мне ў руку кавалачак хлеба·

Хлеб! Няма нічога даражэйшага для галоднага чалавека, чым лустачка хлеба·

— Хто вы? — запытаў я.

— Ёлес, паляк з Львова, — адказаў ён· — Трымайся, хлопча· Не падай духам, — дадаў ён.

Я ў цемнаце знайшоў яго руку і моцна пацісnуў. Штосьці вязкае і клейкае я адчуў на сваёй руцэ·

— Ты, выпадкова, не ў крыві? — здзівіўся я.

— Так, — сцвердзіў ён. — Нядаўна і мяне выпусцілі з карцэра· Таварышы вось прыхавалі мне крыху хлеба са свайго пайка·

— Значыцца гэты хлеб аддаў мне.

— Нічога· Я моцны· Вытрымаю, — бадзёрым голасам сказаў Ёлес.

Я зноў пацісnуў руку сябра і адчуў яго кроў на сваёй параненай руцэ.·.

У камеры, дзе знаходзіўся Рыло, было 60 вязняў, — людзі розных нацыянальнасцей: беларусы, палякі, яўрэі. Усіх іх аб'ядноўвала моцная непарыўная дружба, дружба людзей, згуртаваных адзінай мэтай, адзіным імкненнем да свабоды·

Пасярод вязняў Картуз-Бярозы Ёлеса называлі каралём карцэра· Гэты адважны чалавек, мужны баец партыі прасядзеў у падзямеллі звыш 200 дзён і ночаў. 90 дзён правёў у карцэры Рыло·

Добра памятае Фёдар Сямёнавіч такі эпізод· За выкананне «Інтэрнацыянала» яго зноў адправілі ў карцэр. Атрымоўвалася так, што менавіта на яго паліцэйскія часцей за ўсё звярталі ўвагу. Так атрымалася і на гэты раз· У дзень першамайскага свята вязні зацягнулі рэвалюцыйную песню. У камеру ўварваліся азвярэлыя турэмшчыкі.

— Хто спяваў? — закрычалі яны· А потым, убачыўшы Рыло, паліцыянт прашыпеў: — Гэта ты, рыжы, каламуціш ваду· На тыдзень у карцэр!

Перад гэтым, як Рыло адправілі ў падзямелле, да яго падышоў Ёлес і запрапанаваў замяніцца бялізнаю·

— Навошта? — здзівіўся Фёдар Сямёнавіч·

— У мяне бялізна падвойная. У ёй у карцэры табе будзе цяплей.



 




### ГОРАД НАСІЛЛЯ

На трэцім годзе кіравання Кенедзі ў Даласе запанаваў дух, які не меў нічога агульнага са звычайнай палітыкай партыі. Рэзкі, істэрычны тон быў яўнай прыкметай цяжкага захворвання грамадства.

Нідзе ў ЗША не рэгістравалася столькі забойстваў, як у Тэхасе, і нідзе ў Тэхасе столькі, як у Даласе. У Даласе за адзін месяц фіксавалася больш забойстваў, чым ва ўсёй Англіі, і прыблізна тры чвэрці такіх злачынстваў было зроблена з дапамогай агнястрэльнай зброі (72 працэнты). У Даласе не патрабавалася дазволу на нашэнне зброі, і ў 1963 годзе, да 22 лістапада, там было ўжо зарэгістравана 110 забойстваў.

Далас не быў адзіным горадам, які праяўляў антыпатыі да прэзідэнта Кенедзі, але гэта быў адзіны вялікі амерыканскі горад, у якім можна было заклікаць да насілля, не страціўшы павагі суграмадзян. Непрымірымая варожасць, якую Далас праяўляў у адносінах да «новых рубяжоў» — урадавай праграмы прэзідэнта, — тлумачылася тым, што людзі там засумавалі па сапраўдных або нават уяўных каштоўнасцях «старых рубяжоў». Ніхто там сур'ёзна не мог уявіць Кенедзі каўбоем. Мала таго, што ён быў заможны ад нараджэння і гаварыў з ганарыстай інтанацыяй выхадца з Брытанскіх астравоў, ён адважыўся паставіць пад сумненне традыцыйныя пляменныя інстынкты, і гэта было вышэйшай зняважай, якую ён нанёс тэхасцам. Прэзідэнт быў мысленчым чалавекам, а хто ў старыя добры час, ля «старых рубяжоў», дазваляў сабе аддавацца роздуму, той быў асуджаны. А тут ён яшчэ прапаведваў цярпімасць, разнастайнасць і канфармізм. У часы піянераў усе трымаліся разам і абаранялі кібітачныя гарадкі ад індзейцаў. Прышэльца з Усходу тут таму ўспрымалі як пагрозу. Ні ў каго не выклікалі сумнення громы набожнага абурэння ў рэдакцыйных артыкулах даласкай «Морнінгньюс», антыўрадавы крыжовы паход якой і быў ключом да абсалютызму «Вялікага Д», як часам называюць Далас.

Выдаўцом і старшынёй рэдакцыйнага савета газеты быў Э. М. (Тэд) Дылі, поўны чалавек у цёмных акулярах, якому належала, акрамя таго, далаская тэлевізійная станцыя «ГАА». Пад кіраўніцтвам Дылі «Морнінгньюс» надала налёт рэспектабельнасці радыкальным эксцэсам у пачатку 1960-х гадоў. На працягу двух месяцаў, што папярэднічалі прыезду прэзідэнта ў Тэхас, яго газета вяла татальны наступ на Джона Кенедзі, імкнучыся зняславіць яго імя.

* * *

Перад снеданнем у чацвер, 21 лістапада, прэзідэнт надзеў спецыяльны карсет, зашнураваў чаравікі з рознавысокімі абцасамі, апрануў прыгатаваны камердынерам касцюм, павязаў няяркі гальштук, змацаваў яго шпількай з адбіткам тарпеднага катэра «ПТ-9», на якім ён некалі служыў, і сунуў у кішэню бумажнік з чорнай скуры з 26 доларамі. На бумажніку быў выціснены залаты медаль св. Крыстофера. У такім убранні ён выглядаў заможным і ўпэўненым у сабе бацькам амерыканскай сям'і, які мае намер накіравацца ў дзелавы ваяж, ды ён, уласна кажучы, і адпраўляўся ў такі.

«Караліна! Джон!» — паклікаў ён дзяцей, і яны прыбеглі да бацькі: Джон — у кароткіх штоніках, Караліна — ў блакітных рэйтузах і блакітнай аксамітнай сукенцы. Маці рабіла прычоску, і бацька быў цяпер, за снеданнем, цалкам у іх распараджэнні. Яны весела шчабяталі, пакуль ён праглядаў газеты. У пачатку дзесятай Караліне трэба было ісці ў школу. Яна абняла бацьку, прашаптаўшы: «Да пабачэння, татачка», «Да пабачэння, Караліна», — сказаў ён, і яна пайшла.

Прэзідэнт накіраваўся ў заходні флігель дома і выклікаў сваю сакратарку Эвелін Лінкальн. «Што гэта за чартаўшчына? — Ён патрос лістком паперы са зводкай надвор'я, пададзенай генералам Макх'ю. — Праверце яшчэ раз!»

У 10 гадзін 42 мінуты сакратарка вярнулася і прынесла кепскія навіны: наступныя два дні ў Тэхасе будзе вельмі горача. «Горача?» — Кенедзі апанаваў жах. Ён кінуўся да тэлефона і пазваніў пакаёўцы сваёй жонкі: «Запакуйце лёгкія сукенкі!».

Але ўжо было позна. Сукенкі знаходзіліся ў верталёце. Кенедзі паклаў трубку і ціха вылаяўся. Ён так стараўся, каб паездка прынесла Жаклін задавальненне, а цяпер усё ішло наадварот. Ён уявіў сабе, як яна ў цёплым ружовым касцюме паедзе ў машыне па Даласу. Генерал Макх'ю падвёў: ён абяцаў халаднаватае надвор'е, апытаўшы ўсіх вопытных метэаролагаў урадавых устаноў, прагледзеўшы зводкі бюро надвор'я, прааналізаваўшы прагнозы базы ВПС у Эндрусе і паведамленні з Даласа. Усё было зроблена як на парадзе, але нікуды не было варта. Кенедзі не мог апамятацца ад злосці. Ён пазваніў Макх'ю, прапясочыў яго і выклікаў О'Донела.

«Каб яго чорт узяў, Кені, цяпер будзем арыентавацца на зводкі мясцовых аэрапортаў, — загадаў ён, не тоячы раздражнення. — Або даручым місіс Лінкальн. Яна больш надзейная, і, апрача таго, так будзе танней». Ён вылаяўся: «Горача! Горача! А сукенкі Жаклін ужо запакаваны, і якраз не тыя, што трэба». Ён яшчэ раз вылаяўся, устаў і выйшаў з кабінета.

На другім паверсе Белага дома ён сустрэўся з пакаёўкай сваёй жонкі: «Прывядзіце Джона, я хачу ўзяць яго з сабой», — сказаў ён ёй. Хлопчык з'явіўся адразу ж, ззяючы, у малюсенькім плашчы з зюйдвесткай.

На верталётнай пляцоўцы каля Белага дома сабраліся ўжо амаль усе ад'язджаючыя. З рабочых памяшканняў заходняга флігеля прыйшлі сябры і супрацоўнікі, каб праводзіць іх.

Эвелін Лінкальн і тры агенты сакрэтнай службы ўжо знаходзіліся ў першым верталёце. Маленькага Джона пасадзілі да іх. Генерал Кліфтан і асабісты ўрач прэзідэнта доктар Джордж Берклі занялі месцы ў другім верталёце. Намеснік сакратара па пытаннях друку Макілдаф і рэпарцёры прэс-бюро Белага дома занялі трэці верталёт. Кенедзі, нягледзячы на дождж, быў без капелюша. Ён падняўся ў першую машыну.

З ружоўніка з'явілася місіс Кенедзі. Яна была ў белай шарсцяной сукенцы з букле і паліто, у самы раз для халаднаватага надвор'я. Прэзідэнт глыбока ўздыхнуў і злосна паглядзеў на генерала Макх'ю. Вінты верталётаў запрацавалі...

**(Працяг будзе)**

## Не толькі ў фільме



**Амерыканскі фільм пра дзяўчыну, якая сталася шэрыфам у спадніцы, дачакаўся пацвярджэння ў рэчаіснасці. У Каліфорніі на гэту пасаду паклікана 25-гадовую дзяўчыну. Яна вельмі добра страляе, мае дасканала апанаванае джуда і цешыцца паважаннем у мясцовых людзей. (а-мф)**

## Жонка дыктатара



Гэта мадам Кі. Яе мужа амерыканцы ўстанавілі крывавым дыктатарам Паўднёвага В'етнама. Як відаць, яго жонка таксама любіць сабе пастраляць, пакуль што да... лялек. Бачым яе ў горадзе Канберы — у сталіцы сваіх аўстралійскіх саюзнікаў.

Ці ж бы спадзявалася мадам Кі, што ёй прыдасца разбойніцкі вопыт?

(а-вр)

Фота: «Аганёк»

## ГАЮЧАЯ БЯРОЗА

Ёсць у Сібіры лясы, дзе не заблудзішся нават уначы. Гэта велізарныя бярозавыя масівы. Сібіракі называюць іх «белай тайгой». Здаўна ў «белую тайгу» прыходзілі хворыя, шукалі і збіралі грыбную нарасць на ствалах старых бяроз. Настой бярозавага грыба выдатна дзейнічае пры некаторых страўнікавых захворваннях.

Сібіракі ведаюць яшчэ адзін лекавы сродак, які можна атрымаць ад белай прыгажуні, бярозы. Вясной бярозавы сок цячэ па ствалу і, падсыхаючы на сонцы, утварае на кары шчыльны слой, які складаецца з дробных крышталяў. Гэта канцэнтрат бярозавага соку.

(а-мф)

### УСЁ ЛЮДСКОЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ



У адным гамбургскім (ФРГ) навукова-даследчым інстытуце кормяць карпаў соскай з бутэлькі. Гэтым чынам дастаўляюць ім вітаміны і соевы алей. Як бачым, рыбы ахвотна карыстаюцца гэтай прыслугай. Было ўстаноўлена, што на працягу трох год вага карпаў павялічылася на 7,5 кілаграма. (а-вр)

фота: «Аганёк»




### СТАРЫ РЫНАК

Пасярэдзіне Кракава цудоўны ў сваёй сярэдневяковай прыгажосці Стары Рынак. З раніцы плошча Старога Рынка гудзела: тут мянялі касцюмы на сала, палотны Матэйкі на яйкі, брыльянты на самагонку, акупацыйныя маркі на даваенныя злоты, боты на табак... Чаго тут не мянялі толькі ў тыя гады!

Гэты чацвер нічым не выдзяляўся ад усіх іншых дзён: таксама было людна, трывожна і душна. Таксама праз кожныя паўгадзіны трубач на Марыяцкім касцеле высоўваўся на пяцідзесяціметравай вышыні ў акенцы і іграў на трубцы пазыўныя трывогі. Ён іграў да сярэдзіны, рэзка абрываючы пранізліва чысты матыў. Так было шмат стагоддзяў; паданне расказвае, што трубач убачыў са свайго акенца татараў, якія ішлі на горад лавінай. Ён пратрубіў трывогу, але не паспеў даспяваць сваю песню да канца: яго прабіла страла. З той пары кожныя паўгадзіны трубач і днём і ноччу абрывае сваю песню трывогі.

Было горача. Віхор ішоў памалу, разглядваў людзей, якія тут сабраліся. Побач ішоў гестапавец, пераапрануты пад сляпога — увесь у чорным з сінімі акулярамі на кірпатым носе.

Калі Віхор паглядзеў на яго ў гестапа, яму зрабілася вясёла. «Дурні, — падумаў ён, — у сляпога ніколі не можа быць такога акуратнага твару. Слепата заўсёды накладвае адбітак трагізму і дабраты на твар чалавека. А гэты румяны і сыты. Дурні».

Другі гестапавец ішоў справа, крыху далей. Ён быў адзеты пад селяніна. Трэці ішоў спераду і часта азіраўся, быццам шукаў кагосьці ў натоўпе. Пяць іншых супрацоўнікаў гестапа занялі ключавыя пазіцыі навокал рынка: на скрыжаваннях вуліц, так, каб бачыць адзін другога і забяспечыць пагоню, у выпадку калі рускі паспрабуе ўцякаць. Аб тым, што рынак будзе акружаны, Віхор здагадаўся, хоць пра гэтых пецярых яму, зразумела, нічога не гаварылі перад выездам з гестапа.

Корм для галубоў прадавалі ў асноўным бабулі. Яны трымалі ў руках маленькія трубачкі, скручаныя са старых, пажоўклых газет.

Віхор паглынаў людскую гаворку. Ён адчуваў вострае пачуццё шчасця, слухаючы галасы людзей. Ён не павінен быў нікому і нічога адказваць. Кожны адказ у гестапа дорага каштаваў яму. Адказ павінен быць быстрым, натуральным і праўдзівым натолькі, каб пры магчымай праверцы заставаўся шлях для тлумачэння. Ноччу пасля допытаў ён не мог спаць, таму што яшчэ раз «пракручваў» у памяці гэтае сваё «кіно». Ён успамінаў кожную інтанацыю шэфа, ён успамінаў, у якой чарговасці яны задавалі яму пытанні, што ён ім адказваў, дзе былі паўзы, якія адказы маглі аказацца пасля аналізу повадам да новых пытанняў. Ён адзначаў для сябе, які круг пытанняў яны яшчэ не кранулі, прыкідваў, што іх павінна цікавіць у першую чаргу, і рыхтаваў прыблізныя легенды для найбольш праўдападобных сітуацый.

Сляпы штурхнуў Віхра ў бок.

Віхор нетарапліва павярнуўся. Сляпы кіўнуў галавою на маладога хлопца ў чорнай вельветавай куртцы. Хлопец трымаў у руках трубачкі з кормам для галубоў.

«Ліпа, — падумаў Віхор, — гэта ліпа. Яны мяне бяруць на вудачку. Гэта іх чалавек. Яны хочуць мяне праверыць яшчэ раз: пачну крычаць «Уцякай!», ці падыду да яго. Так. Дурні. Яны ж мне так дапамагаюць. Самі сябе пераконваюць у маёй ім адданасці. Стоп. А што, калі гэта выпадковае супадзенне? Загіне хлопец. Наўрад. Гэта не выпадковасць. Гэта не можа быць выпадковасць — надта дакладна ўсё сыграна».

Ён памалу ішоў следам за хлопцам, які хадзіў міма іншых гандляроў — пяць крокаў наперад, пяць назад.

— У вас няма добрага корму для індычак? — нахіліўшыся да чалавека ў вельветавай куртцы, спытаў Віхор.

Той быстра павярнуўся, глянуў на Віхра і сляпога, а потым адказаў:

— Цяпер корм для індычак вельмі дарагі... Відавочна, вы маеце на ўвазе індычанят...

І першым працягнуў руку Віхру. Віхор паціснуў працягнутую яму руку.

«Гэта ўжо робіцца недарэчна. Відаць ён павядзе мяне на яўку, — думаў Віхор. — Уцякаць з дарогі? Нельга. Калі будзе аблава на рынку, у мяне дзевяноста са ста. Цяпер уцякаць з дарогі — адзін са ста. А калі іншых больш не здарыцца? Калі аблавы не будзе? Калі... Тысячу калі... Тысячу праклятых калі...»

Усё гэта праняслося ў яго галаве, калі ён, агляну́ўшыся, сказаў сляпому:

— Знаёмся, гэта наш сябра.

А пасля яны ішлі па вуліцы Святога Паўла, павярнулі да Ягелонскага ўніверсітэта, выйшлі на Плянты і рушылі да Віслы.

Народу было не шмат. На лаўках сядзелі жанчыны з дзяцьмі.

# ТРЫБУНА чытачоў

## 80 НІВАЎ

Усім вядома, што «Ніва» з'яўляецца адзіным беларускім часопісам у Польшчы, што толькі яна друкуе матэрыялы патрэбныя да вывучання беларускай мовы і што тэматыка яе — гэта перш за ўсё штодзённыя справы і жыццё беларускага насельніцтва на Беласточчыне.

У многіх школах усе дзеці, якія вучацца беларускай мовы, з'яўляюцца падпісчыкамі нашага часопіса. Гэтак ёсць і ў пачатковай школе ў Вілінаве (Сямяціцкі павет), якую ўзначальвае Анатоль Мартыновіч. Маем там 80 падпісчыкаў. Школу ў Вілінаве можна ставіць як прыклад для іншых школ.

**Х. С.**
Вілінава

## МЕЛІЯРАЦЫЯ

Ужо набліжаецца да канца работа на меліярацыйным аб'екце ракі Малынка. На абшары 150 гектараў зарасніку і непрыгодных балот Меліярацыйнае прадпрыемства ў Бельску-Падляшскім мінулага года пакапала равы і месцамі заарала нізкаякасную сенажаць.

Вясною гэтага года прыехалі рабочыя і прыступілі да заканчэння меліярацыйных прац. Хоць была мокрая вясна, але трактарысты стараліся, каб як найхутчэй закончыць гэтую работу. Цяпер жыхары вёсак: Трасцянка, Сакі і Белкі будуць мець сухую сенажаць і высакаякаснае сена.

Вышэй успомненая ўстанова пераехала ўжо на работу да вёскі Сацы (Гайнаўскі павет) і вёскі Жыўкова (Беластоцкі павет) і там яно загаспадароўвае зялёныя лугі.

«Ярош»
Белкі

## АБ ЛАСІНЦЫ Ў ТЭЛЕВІЗІІ

У праграме «Рэфлексіі» Варшаўская тэлевізія паказала 5 чэрвеня г.г. кароткі фільм аб беларускіх народных звычаях на Юрыя ў вёсцы **Ласінка**, Гайнаўскага павета. У каментарыі да гэтага фільма пададзена важнейшыя мясцовыя беларускія назвы, звязаныя са звычаямі «на Юрыя».

(с я)


**Найлепшым спосабам на рэгулярнае атрымліванне «Нівы» з'яўляецца падпіска. У Польшчы можна выпісаць «Ніву» на год, паўгода, квартал і месяц. У БССР прыймаецца толькі гадавая падпіска. Падпісвайцеся на «Ніву».**

---

«Тут усё прастрэльваецца. Яны мяне схопяць тут, — думаў Віхор, — няма сэнсу».

— Спатыкайся крыху, — шапнуў ён сляпому, калі хлопец у вельветцы адвярнуўся.

Сляпы кіўнуў галавою, але працягваў ісці, як салдат на парадзе.

Каля высокага будынку, побач з гасцініцай, вельветавы хлопец спыніўся, паглядзеў на белую таблічку, на якой былі нумары кватэр, ледзь прыкметна кіўнуў галавою і адчыніў дзверы. Віхор і сляпы ўвайшлі ў пад'езд следам.

Каля пятай кватэры на трэцім паверсе яны спыніліся. Вельветавы хлопец доўга прыслухоўваўся, потым замёр, прыклаўшыся вухам да дзіркі ў замку, і лоўка, адным паваротам, адчыніў дзверы.

У вялікім пакоі, амаль пустым — маленькі стол, з боку тапчан. Каля велізарнага, ледзь не на ўсю сцяну акна, стаяў шэф аддзела III-А. Ён усміхаўся.

— Выбачайце, але ў нашай працы даводзіцца часам разыгрываць спектаклі.

Віхор быў падрыхтаваны да гэтага; ён сыграў такое здзіўленне, што гестапаўцы — спачатку шэф, потым сляпы, які хаваў акуляры ў футляр, а потым вельветавы хлопец — паблажліва рассмяяліся.

**(Працяг будзе)**

## 17 ГОД У ГРН



Шыман Паўлоўскі з'яўляецца найстарэйшым працаўніком Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай у Ласінцы. Працуе ён там ужо 17 год. Займаў у ГРН розныя пасады, а цяпер з'яўляецца яго старшынёй.

Тэкст і фота
**Міша Тэлешэўскі**
Рэпіска

## ЛАСІНСКІЯ ДАРОГІ

Згодна з планамі ГРН у Ласінцы ў гэтым годзе праводзяцца рамонты многіх мясцовых дарог. І так, з Трывежы ў Ласінку, з Каменя ў Курашава, з Тыневіч у Камень пры дапамозе дзяржаўных сродкаў і грамадскім чынам жыхары вёсак наладзяць свае дарогі. А на аўтобусным прыпынку Галякова Шыя пабудуецца пачакальню.

Апрача таго ў вёсцы Трывежа будзе ўложаны брук на маставой.

Планы гэтыя ўжо рэалізуюцца.

**Т. М.**
Ласінка




Дарагое Сэрцайка!

Год таму назад я пазнаёмілася з Сярожкам. Ён служыў у арміі (цяпер таксама). Мне вельмі падабаўся Сярожа. Папрасіла я яго дамоў. Бацькам таксама вельмі спадабаўся: спакойны, талковы, ветлівы. Цэлы год мы перапісваемся пісьмамі. Калі Сярожа прыязджае ў водпуск, заўсёды бывае ў нас. У мінулую нядзелю ў мяне быў хлапец у райках з нашай вёскі. Два гады таму назад мы сябравалі з ім, але потым перастаў мяне цікавіць. Мне больш падабаецца Сярожа. Аднак гэты хлапец, які быў у райках, мае добры характар і добрую гаспадарку. Нядаўна я атрымала пісьмо ад Сярожы, у якім ён просіць, каб чакала на яго. Не ведаю, што рабіць, ці верыць яму, ці не. Шкада Колі, бо добры хлапец, а Сярожа зноў лепш падабаецца. Мне ўжо 24 гады, і трэба было б выйсці замуж. Парай, Сэрцайка, што рабіць.

Маня з Гайнаўскага
павета

Дарагая Маня!

Мне здаецца, што ты павінна чакаць на Сярожу. Бо як з лісту твайго вынікае, ён табе падабаецца лепш ад Колі, і як пішаш, таксама добры хлапец. Ты яшчэ маладая і няма патрэбы спяшыць з замужам. А Колі павінна адказаць. Нельга ж толькі дзеля таго, што Коля добры і мае добрую гаспадарку, спяшыць замуж, калі ты кахаеш другога. Гэта ж на ўсё тваё жыццё. Пачакай, хутка ж ужо Сярожа вернецца з войска.

Жадаю ўсяго найлепшага
Сэрцайка.

## ХРАНОК І Д'ЯБАЛ

Было гэта за санацыйнай Польшчы. У вёсцы Леановічы, што ў Беластоцкім павеце, жыў цікавы чалавек па прозвішчы Хранок. Быў ён вельмі спасобны да ўсялякай работы, але не мог разумова вырашыць, не меў, як кажуць, чым думаць. Усе сяляне дзіву даваліся яго здольнасцям. Ён быў і слёсарам, і механікам, і плотнікам. Але вось тут і дзіва. Усё любіў рабіць і ўмеў рабіць, толькі ніколі не выканчваў да канца сваёй работы. Пачынаў многа работ, паробіць прыкладна да паловы, або толькі пачне і зараз жа бярэцца за другую.

Раз вясною пачаў будаваць гумно (клуню). Зрабіў яе як цацку. Пакінуў работу, як трэба было закладаць ачэпы і кроквы. Надышла восень. Не было ў Хранка дроў. Дык пачаў ён паліць будаўляны матэрыял, а за зіму спаліў усю клуню. Асталіся толькі падрубы.

Гаспадар з яго таксама быў дрэнны. Усё было запушчана, зямля нявыраблена. Грэючыся зімой каля печы рабіў ён вельмі добрыя шчоткі да чэсання ільну.

Пасля Хранок пачаў майстраваць млын. Вядома, пачаў і не скончыў.

Быў ён жанаты. Але сямейнае жыццё яму не ўкладалася. Жонка яго кінула і вярнулася да бацькі.

Ён вельмі сумаваў па ёй. Кожны дзень не ведаў, за што перш брацца, за гатаванне, ці за майстэрку. Раіўся ён людзей — што зрабіць, каб жонка вярнулася, і калі вернецца, як ёй дагаджаць. Так наракаючы на свой лёс напаткаў ён чалавека, які яму заявіў, што знаецца з д'яблам і што можа дапамагчы вярнуць жонку. Але за гэта трэба д'яблу плаціць. Даў Хранок задатак для пасрэдніка. Гатоў быў і душу аддаць за вяртанне жонкі. Пасрэднік Хранка пераканаў, што трэба пайсці ў 12 гадзін ночы ў лес у Мацулеўшчыну. І так Хранок зрабіў. У адну месячную ноч пайшоў з пасрэднікам у лес. Пасрэднік тры разы свіснуў, і Хранок убачыў на ёлцы касматага д'ябла з рыжым хвастом, які некалькі разоў закаркаў як варона. Хранок спалохаўся так, што мусіў зараз змяняць нагавіцы. Але страх прайшоў, і Хранок пачаў весці з д'яблам размову. Пачаў прасіць д'ябла, коб дапамог вярнуць жонку і каб яму прыносіў грошы, а за гэта ён, Хранок, аддасць яму сваю душу. Д'ябал зноў закаркаў ды скінуў яму на паперы напісаны дагавор і загадаў, каб Хранок падпісаў яго сваёй крывёю. Хранок не задумоўваючыся падпісаў і палажыў паперу пад ёлку. Пасля д'ябал сказаў, што Хранок павінен спаліць для цесця стог сена, каб разам з дымам пайшло хранковае гора.

— Трэба таксама, — прыказваў д'ябал, — каб ты на хаце каля коміна зняў у цесця тры дахоўкі. Гэта патрэбнае для таго, каб д'ябал мог улазіць у хату і бачыць, што робіць хранкова жонка. Праз комін, дадаў д'ябал, лазяць толькі ведзьмы, а ён, д'ябал, праз комін не лазіць.

Хранок ноччу падпаліў стог сена і пайшоў здымаць дахоўку. Стаў здымаць ды нарабіў ламосу. Абудзіўся цесць і выбег на вуліцу. У гэтым часе Хранок зсунуўся з дахоўкі аж на зямлю і пачаў уцякаць у лес. Цесць з шваграм сталі гнаць Хранка, але не дагналі.

Праз нейкі час усё выдалася, выяснілася. У вёсцы было многа смеху з таго, як гэта Аляксейчук вывярнуўшы на другі бок чорнага кажуха і прычапіўшы рогі і хвост ашукваў Хранка. Пакрыўджаны Хранок падаў у суд тых, хто над ім насмейваўся. Суд адбыўся ў Ялоўцы. Выглядаў ён на спектакль. Д'ябла прымусілі апрануцца ў вывернуты чорны кажух і прычапіць рогі і хвост. Прысутныя на судзе рагаталі да ўпаду з наіўнасці Хранка і хітрыкаў Аляксейчука.

**Васіль Дзун**
Гайнаўка

## ЯШЧЭ РАЗ АБ СВЯТЛІЦЫ

Ужо аб святліцы ў Вэрпалі (Сямяціцкі павет) пісалася ў «Ніве». Пісалася аб цяжкасцях моладзі, якая будавала гэту святліцу. Але на выканчэнне яе патрэбна пэўная сума грошай, патрэбны матэрыял. Пасля крытыкі ўзварухнуліся ўраднікі ГРН у Тымянцы, закупілі дошкі і планавалі святліцу давесці да парадку. Прашло шмат часу, і зноў забыліся ў ГРН аб святліцы ў Вэрпалі. Дошкі пагінулі, але з ГРН ніхто відавочна не пераймаецца, што ў такім страшным стане святліца. Чаму так? Чаму ГРН у Тымянцы абыякава адносіцца да святліцы, якая павінна быць цэнтрам развіцця культуры?

Жыхар з Вэрпаля

## ЗАБАВА

У Плёсках рэарганізаваўся гурток Саюза вясковай моладзі. Зараз старшынёй гуртка з'яўляецца Зіна Гаўрылюк. Дзякуючы яе ініцыятыве і жаданню грамадскай працы, гурток СВМ арганізаваў маладзёжную забаву. Да яе была вялікая падрыхтоўка. Упрыгожана святліцу: ёлачнымі галінкамі прыбраны сцены, памыта падлога, павешаны на сценах лозунгі.

Забава была вельмі ўданая, культурная. Іграў Бельскі аркестр. Усе з забавы былі вельмі задаволеныя.

**Вераніка Леанюк**
Плёскі

# КІНО

**Праграма
на 27.VI. — 2.VII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Kochajmy syrenki" (polski), 27—28. VI. „Białe pustkowie" (USA), 29—30. VI. „Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), 1—2. VII.

**Кляшчэлі**

„Miłość surowo wzbroniona" (węgierski), 27—28. VI. „Kiermasz" (NRF), 29—30. VI. „Szynel" (radz.), 1—2. VII.

**Дубіны**

„Bokser" (polski), „Samotna" (radz.), 1—2. VII.

**Нараўка**

„Przed nami zakręt" (radz.), 27—28. VI. „Tytoń" (bułg.), 29—30. VI.

**Чыжы**

„Strzelby Apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 29. VI.—2. VII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Zemsta OAS" (franc.), „Tak" (węgierski), 29. VI.—2. VII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Panie inspektorze" (jugosł.), „Śmierć Belli" (franc.), 29. VI.—2. VII.

**Райск**

„Okno na Lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 29. VI.—2. VII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Tomcio Paluch" (USA), 27—28. VI. „Kochajmy syrenki" (polski), 29—30. VI.

**Міхалова**

„Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 27—28. VI. „Pluton 317" (franc.), 29—30. VI. „Ściana czarownic" (polski), 1—2. VII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Tylko we dwoje" (angl.), 27—28. VI. „Sami na wyspie" (jugosł.), 29—30. VI. „Chudy i inni" (polski), 1—2. VII.

**Шудзялава**

„O carski tron" (bułg.), „Siódmy przysięgły" (franc.), 29. VI.—2. VII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Popioły" (polski), I i II s. 29. VI.—2. VII.

**Ліпск**

„Oskarżony" (polski), „Dziewczyna kłamie" (franc.), 1—2. VII.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

**Nakład** 7.173 **Bltk M-3**

